УДК 784.4
ББК 85.94я438
Н 30

Укладанне
Яніна Грыневіч, Сяржук Доўгушаў
Расшыфроўка нот:
Наста Някрасава, Аляксандр Ясінскі
(1-5, 11-12, 16-19, 21-22, 24-27)
Набор нотнага матэрыялу і тэкстаў:
Наста Карпенка

*У аздабленні кнігі выкарыстана выцінанка Насты Глушко*

**Народны спеўнік** / уклад. Я.Грыневіч, С.Доўгушаў. —
Н 30 Мінск : «Медыял», 2020 — 40 с. : іл.
**ISBN 978-985-7229-37-6**

У спеўніку прадстаўлены адметныя і цікавыя ўзоры беларускай народнай творчасці (каляндарна-абрадавыя, пазаабрадавыя песні і балады), прыдатныя для сумеснага выканання. Гэта тэксты, якія не адно стагоддзе збіралі беларусаў для пачэсных спраў і вясёлых сустрэч, аб'ядноўвалі і натхнялі.

Адрасуецца ўсім, хто цікавіцца беларускім фальклорам і традыцыйнай культурай.

УДК 784.4
ББК 85.94я438

ISBN 978-985-7229-37-6

# Перапёлка

*Жніўная*




Перапёлка,
Трысцяно гняздзечка,
Залато яечка,
Перапёлка.

Перапёлка,
Пастушкі пагоняць,
Яечкі заберуць,
Перапёлка.

Перапёлка,
Не вій ты гняздзечка
Блізка пры дарожцы,
Перапёлка.

Перапёлка,
А звій ты гняздзечка
На зялёным дубе,
Перапёлка.

Перапёлка,
Вецярок павеіць,
Дзетак пакалышыць,
Перапёлка.

Ой, дзеванька!
Не вій ты вяночак —
Восень недалёчка,
Ой, дзеванька.

Ой, дзеванька!
Сваточкі прыедуць,
Цябе з сабой возьмуць,
Ой, дзеванька.

## Іншы варыянт слоў (Ой, лятала)

Ой, лятала да шэра перапёлка
Ды па чыстым полі, ой, лятала.

Ой, шукала да шэра перапёлка
Сваіх дробных дзетак, ой, шукала.

Ды не знайшла да шэра перапёлка
Сваіх дробных дзетак, ды не знайшла.

Толькі знайшла ды яна мясцечка,
Халодна гняздзечка, толькі знайшла.

Ой, хадзіла горкая сіротка
Ды па чыстым полі, ой, хадзіла.

Ой, шукала горкая сіротка
Сваіх татку з мамкай, ой, шукала.

Ды не знайшла горкая сіротка
Сваіх татку з мамкай, ды не знайшла.

Толькі знайшла ды яна крыніцу
Сцюдзёну вадзіцу, толькі знайшла.



# Вэлітай

*Жніўная*

♩=82

Вэ- лі(ы)-тай, вэ - лі(ы)-тай, пэ - рэ - пыл - ко,

5

вэ- лі(ы)-тай-вэ лі(ы)-тай, пэ - рэ - пыл - ко.

— Вэлі(ы)тай, вэлі(ы)тай, пэрэпылко! *
Поглянь, поглянь у нас жыта кілько!
— Нэ буду, нэ буду вэлітаты,
Бо нам трэба жыто зажынаты.
— А ў нас сэрпыкі золотыйі,
А нашы жэнчынкі молодыйі,
Вэлі(ы)тай, вэлі(ы)тай, пэрэпылко!



* *Кожны радок паўтараецца двойчы.*

# Ой, літо

*Жніўная*

♩=98

Ой, лі - то, лі - то, лі - тыч - ко,

ой, лі - то, лі - то,_ лі - тыч - ко.______

Ой, лі́то, лі́то, лі́тычко –
Посьпі́ло жы́то-жы́тычко;
Ой, лі́то, лі́то, новына́ –
Посьпі́ло жы́то, ярына́.



# На моры жабка

*Восеньская*




На моры жабка красенцы ткала.
Рана-рана, красенцы ткала.

Прыйшоў арачак да жабкі ў сваты.
Рана-рана, да жабкі ў сваты.

— А ў цябе ў жабкі кароткі лапкі.
Рана-рана, кароткі лапкі.

— А ў цябе, рачак, у срачцы вочкі.
Рана-рана, у срачцы вочкі.

— Кароткі лапкі далёка скачуць.
Рана-рана, далёка скачуць.

— У срачцы вочкі далёка бачуць.
Рана-рана, далёка бачуць.

На моры жабка красенцы ткала.
Рана-рана, красенцы ткала.

# Талака

*Восеньская*

♩=81

Ў нас ся - го -ння та - ла - ка - рыб-ка шчу-ку

ва-лак-ла. А на два рэ да й не ра - но.

У нас сягоння талака –
Рыбка шчуку валакла,
А на дворэ да й не рано. *

Талочнікі не пяюць –
Нам гасцінца не даюць,
А на дворэ да й не рано.

У нашага гаспадара
Кучарава галава,
А на дворэ да й не рано.

Ён кудрамі патрасе –
Нам гасцінца прынясе,
А на дворэ да й не рано.

Гаспадыня вутка,
Варачайся хутка,
А на дворэ да й не рано.

Стаўце кашу на стол,
А горшчыка кінь пад стол,
А на дворэ да й не рано.



* *Кожны апошні радок паўтараецца двойчы.*

# Туман ярам, ярам-даліною

*Лірычная*

♩=52

mp

Ту- ман я- рам, я- рам- да- лі- но- ю,

ту-ман я- рам, я- рам-да- лі- но- ю.

Туман ярам, ярам-даліною.*
За туманам нічога не відна,
Толькі відна дуба зелянога.
Пад тым дубам крыніца стаяла,
З той крыніцы дзеўка воду брала
Ды ўпусціла залато вядзерца,
Засмуціла казакова сэрца.
— Ой, хто ж тое вядзерца дастане,
Той са мною на ручніку стане.
Адазваўся казак маладзенькі:
— Ой, я ж тое вядзерца дастану,
Я ж з табою на ручніку стану.

* *Кожны радок паўтараецца двойчы.*

# Пасею гурочкі

*Лірычная*

Па-се-ю гу-роч-кі__ ніз-ка над ва-до-ю,

са-ма бу-ду па-лі-ва-ці дроб на-ю сля-зо - ю.

са-ма бу - ду па-лі-ва-ці дроб на-ю__сля-зо(ю).

Пасею гурочкі
Нізка над вадою,
*Сама буду паліваці
Дробнаю слязою.

Выраслі гурочкі
Ў чатыры радочкі,
Не бачыла міленькага
Чатыры гадочкі.

Толькі і спаткала,
Як этапам гналі,
Я ж хацела ручку даці,
Ды стража стаяла.

Я яму сказала,
А ён мне ні слова:
Махнуў беленькім платочкам, —
Будзь, міла, здарова.

Я яму пісала
Беленькі лісточак —
Прыедзь, прыедзь, мойміленькі,
Хоць н' адзін часочак.



** Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы*

# А ў полі вярба

*Лірычная*




А ў полі вярба,
Пад вярбой вада,
Там хадзіла, там гуляла
Дзеўка малада.*

Дзеўка ад вады,
Хлопец (казак) да вады:
— Пастой, пастой, дзяўчыначка,
Дай каню вады.

Рада б пастаяць,
Каню вады даць,
Мае босенькія ножкі, —
Сцюдзёна стаяць.

— Я зніму парчу,
Ножкі увярчу,
А назад як я вярнуся,
Боцікі куплю.

— Не купляй ты мне,
А купі сабе:
Ёсць у мяне татка, мамка,
Яны купяць мне.

** Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы*

# Ой, рэчанька

*Лірычная*

♩=104

Ча-му ж ты не поў - на - я,

Ой, рэ-чань-ка, рэ - чань ка ча-му ж ты не

поў-на - я? Лю - лі, лю - лі, лю-лі, ча-му ж ты не

1,2,3. 4.

поў - на - я? ла.

Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная?
Ой, люлі, люлі, люлі,*
Чаму ж ты не поўная?

Чаму ж ты не поўная,
З беражком не роўная?
Ой, люлі, люлі, люлі,
З беражком не роўная?

А як жа мне поўнай быць,
З беражкамі роўнай плыць?
Ой, люлі, люлі, люлі,
З беражкамі роўнай плыць?

Янка коніка паіў,
Маня воду чэрпала.
Ой, люлі, люлі, люлі,
Маня воду чэрпала.

* *Другі варыянт спяваецца без дабаўлення «Ой»*

# Ой, сівы конь бяжыць

*Лірычная*













Ой, сівы конь бяжыць,
Ў яго бела грыва.
*Ой, спанаравілась,
Ой, спанаравілась
Мне тая дзеўчына.

Не так та дзеўчына,
Як яе лічанька
— Ой, падай, дзеўчына,
Ой, падай, дзеўчына,
Мне белу ручаньку.

Ручаньку падала,
Тры словы сказала:
— Няхай бы я жыла,
Няхай бы я жыла,
Кахання не знала.

Бо тое каханне
З вечара да рання.
Як сонейка ўзыйдзе,
Як сонейка ўзыйдзе —
Каханне разыйдзе.



* *Апошнія тры радкі кожнай страфы паўтараюцца*

# Галубка на вішні

*Лірычная*




Галубка на вішні,
Голуб на чарэшні,
Галубка на вішні,
Голуб на чарэшні.
— Ой, скажы, дзяўчына,
Што маеш на мысьлі?
Ой, скажы, дзяўчына,
Што маеш на мысьлі?

— Я маю на мысьлі
Цебе астаўляці,
Я маю на мысьлі
Цебе астаўляці,
Чэрэз родну маці,
Чэрэз матуленьку
Мушу пакідаці
Чорную брывеньку.

* *Кожны радок паўтараецца двойчы*

# Дарожка

*Лірычная*

♩=68

Да - рож - ка, да - рож - ка, што ж ты шы-ро-ка - я, да-

рож-ка, да рож-ка, што ж ты шы-ро-ка - я.

Дарожка, дарожка, што ж ты шырокая,*
Каля тое дарожкі тры сады стаяла.
А ў першым садзе зязюля кувала,
А ў другім садзе салавей шчабеча,
А ў трэцім садзе сын з маці гавораць:
— Раскажы ж мне, сынку, а хто ж табе мільшы?
— А цешча мне міла, міла для заезду,
А жонка мне міла, міла для савету,
А маці мне міла, мілей ўсяго свету —
Хадзіла, канала, радзіла, ўмірала,
Пачобачку з ножкі сваёй не здымала.



** Кожны радок паўтараецца двойчы*

# Чырвоная вішня

*Лірычная*

♪=100


















Чырвоная вішня з-пад корня не вышла,
Аддала мяне маці, дзе я не прывыкша.*

Ой, выйду на гору, дай гляну да дому
— Вары, маці, вячэру і на маю долю.

Вячэру варыла, не раз гаварыла:
— Няма табе, доню, ні міскі, ні ложкі.

— Ты думаеш, мама, што я тут пануючы,
Прыдзі падзівіся, як я тут гарую.

Ты думаеш, мама, што я тут не плачу,
За горкімі слезамі я свету не бачу.

Ўспомні мяне, мама, хоць раз у суботу,
А я цябе, мама, йдучы на работу.

Ўспомні мяне, мама, хоць раз у нядзелю,
А я цябе, мама, сцелючы пасцелю.

Ўспомні мяне, мама, хоць раз ў панядзелак,
А я цябе, мама, за кожным за дзелам.

Ўспомні мяне, мама, хоць раз у аўторак,
А я цябе, мама, на дні разоў сорак.



* *Кожны другі радок паўтараецца двойчы*

# А ўгародзе верба расла

*Бяседная*

𝅗𝅥=58

А ў га-ро-дзе ве - рба ра__ сла,

а ў га-ро-дзе ве - рба ра - сла,___

там ста-я-ла дзеў - ка кра - сна.

А ўгародзе верба расла,*
Там стаяла дзеўка красна.

Яна красна, шчэ й красіва,
Яе доля нешчаслівa.

Яе доля нешчаслівa,
Няма таго, што любіла.

Няма таго і не будзе,
Разлучылі злыя людзі.

Асудзілі, абсмяялі,
Каб мы ўпары не стаялі.

А мы ўпары стаяць будзем
І друг друга не забудзем.

* *Першы радок кожнай страфы паўтараецца*

# Ой, у лузе каліна стаяла

*Бяседная*










Варыянт











Ой, у лузе каліна стаяла,*
Там каліну Галіна ламала.

— Ой, Галіна ліца румянога,
Ці ж ты любіш мяне маладога?

— Ой, я рада б цябе палюбіці,
Толькі баюсь вянок загубіці.

— Ой, не ўбіў я птушыны малое,
Не згублю я цябе маладое.

* *Першы радок кожнай страфы паўтараецца*

# Ой, да сонцэ

*Бяседная*

Ой, да сон-цэ да сон-цэ да я я

яс - на - е эй да чэ-во ж ты ра нень -

-ка ўзы - хо дзі - ла.

Ой, да сонцэ, да сонцэ да яснае, эй,
Да чэво ж раненька ўзыходзіла, й.
Да чэво ж ты да раненька ўзыходзіла, эй,
Ой, да позненька да закацілася, й.

Ой, да позно да закацілася, ой,
Да на мяне маменька бранілася, й.
Да ні браніса да родна жы маменька, эй,
Да й у мяне госцік да родный брацейка, й.

Да я ж ево да проважала, эй,
Цераз тые цёмные да высокі леса, й.
Да нас було да толька двоечко, ой,
Да сястрыцка родна да родны брацейка.

# Як пасеяў Андрэй грэчку

*Бяседная*

♩=52

Як па - се-яў Анд-рэйгрэч-ку, ра - ю, рай.

♩=110

Якпа се яў Анд-рэй грэч-ку, ры-цу,ры-цу, ры-цу,рай,

на ду-боч-ку, на вяр шэч ку, гоп - рай, ры цу-рай!

Як пасеяў Андрэй грэчку, раю-рай!
* Як пасеяў Андрэй грэчку, рыцу-рыцу, рыцу-рай!
На дубочку, на вяршэчку, гоп-рай, рыцу-рай!

А я грэчку не полола, раю-рай!
А я грэчку не полола, рыцу-рыцу, рыцу-рай!
Под горою казу пасла, гоп-рай, рыцу-рай!

Под горою казу пасла, раю-рай!
Под горою казу пасла, рыцу-рыцу, рыцу-рай!
Назбірала горшчок масла, гоп-рай, рыцу-рай!

* *Два апошнія радкі паўтараюцца двойчы*

Горшчок масла, бочку сыру, раю-рай!
Горшчок масла, бочку сыру, рыцу-рыцу, рыцу-рай!
Варэнікаў наварыла, гоп-рай, рыцу-рай!

Варэнікаў наварыла, раю-рай!
Варэнікаў наварыла, рыцу-рыцу, рыцу-рай!
У госці хлопцаў запрасіла, гоп-рай, рыцу-рай!

Ешця хлопцы, да й мочайце, раю-рай!
Ешця хлопцы, да й мочайце, рыцу-рыцу, рыцу-рай!
На гарэлку пробачайце, гоп-рай, рыцу-рай!



# Пчолы мае

*Бяседная*




Ой вы, пчолы, мае пчолы,
Пчолы ярые мае.
Пчолы мае, ярые мае.*

Ой, чаму ж вы седзіцё,
У паход не леціцё?
Пчолы мае, ярые мае.

Ці вас дожджык замачыў?
Ці вас ветрык не ўсушыў?
Пчолы мае, ярые мае.

Ой вы, госьці, мае госьці,
Госьці любые мае,
Пчолы мае, ярые мае.

Ой, чаму ж вы седзіцё,
Хлеба, солі не есьцё?
Пчолы мае, ярые мае.

Ці мой хлеб не пушоны,
Ці я сам не вяселы?
Пчолы мае, ярые мае.

А я хлеб падкушу,
А я вас развесялю.
Пчолы мае, ярые мае.

А я вас развесялю.
Дударыкаў я найму.
Пчолы мае, ярые мае.

Дударыкі будуць граць,
А мы пойдзем танцаваць.
Пчолы мае, ярые мае.

** Кожны апошні радок паўтараецца двойчы.*

# Ой ты, Косцюшко, хорошій мій

*Бяседная*

Ой ты, Ко-стю-шко, хо-ро-шій мій, Як тэ-бэ лю-блять
як тэ - бэ льшчать. Як тэ - бэ лю-блять як тэ - бэ
льшчать, шо ко - ло тэ - бэ гро-шы бра шчать.

Ой ты, Косцюшко, хорошій мій,
Як тэбэ любляць, як тэбэ льшчаць,
Як тэбэ любляць, як тэбэ льшчаць,
Шо коло тэбэ грошы брашчаць.

Зайшов до пана грошы меняць,
А пан скорійшэ: «За стыл сядай!»
За стыл садовыць, віно дае,
А всё за грошы, шо в мэнэ е.

Зайшов до попа ў хорім святы,
А піп с кадылом за мной бэжыць,
Кадылом кадыць, горло дэрэ,
А всё за грошы, шо в мэнэ е.

Ой, шось у мэнэ в грудзях болыць,
Прокляты кашэль мэнэ давыць.
Доктор скорійше лікы дае,
А всё за грошы, шо в мэнэ е.

Ой, шчэ забувся я вам сказаць,
Ой, як за мною дзеўкі бэжаць.
Одна сьміецца, друга моргнэ,
А всё за грошы, шо в мэнэ е.

* *Два апошнія радкі паўтараюцца двойчы.*

# Ой, чыя ж то ніва, чые ж то пакосы

*Балада*

𝅗𝅥=76

А

Ой, чы-я ж то ні-ва, чы-е ж то па-ко-сы?

С.
А.

Ой. чы-я ж то ні - ва, чы-е ж то па-ко - сы,

Т.
Б.

чы-я ж то дзяў-чы - на ра-спу-сці - ла ко-сы?

Варыянт

𝅗𝅥=80

Вы-праў-ля - ла ма-ці сы-на у са-лда-ты.

Вы-праў-ля - ла ма - ці сы-на у са-лда - ты,

ня-лю-бу ня-ве-стку ў по-ле лё - ну рва-ці.

Ой, чыя ж то ніва, чые ж то пакосы?
Ой, чыя ж то ніва, чые ж то пакосы,
Чыя ж то дзяўчына распусціла косы? *

Гэта ж мая ніва, то ж мае пакосы,
Гэта ж мая ніва, то ж мае пакосы,
То ж мая дзяўчына распусціла косы.

Выпраўляла маці сына у салдаты.
Выпраўляла маці сына у салдаты,
Маладу нявестку ў поле лён ірваці.

— Як не вырвеш лёну, то не йдзі да дому.
Як не вырвеш лёну, то не йдзі да дому,
Стань у чыстым полі да й тапаліною.

Рвала яна, рвала, рвала не дарвала.
Рвала яна, рвала, рвала не дарвала,
Ды й у чыстым полі тапалёю стала.

Адзін год праходзіць, другі наступае.
Адзін год праходзіць, другі наступае,
На трэці гадочак прыходзіць сыночак.

Маці мая, маці, што ж то за навіна?
Маці мая, маці, што то за навіна,
Што на нашым полі расце тапаліна?

— Не пытайся, сынку, пра тую навіну.
Не пытайся, сынку, пра тую навіну,
На, бяры сякеру, рубай тапаліну.

Адзін раз ударыў — яна пахілілась.
Адзін раз ударыў — яна пахілілась,
Другі раз ударыў — яна папрасілась:

— Не рубай, казача, я твая дружына.
Не рубай, казача, я твая дружына,
Пашукай у лісці - там твая дзяціна.

Маці ж мая, маці, што ты нарабіла.
Маці ж мая, маці, што ты нарабіла,
Што мяне з мілою навек разлучыла.

# Ой, шчо гэто за вэрба

*Балада*

♩=65

Ой, шчо гэ-то за вэр ба,_ шо бэз ко-рэ - ня ро - сла,

Ой - лі, ой, да лю - лі, шо бэз ко - рэ - ня ро-сла.

Ой, шчо гэто за вэрба,
Шо бэз корэня росла?
*Ой–лі, ой да лю-лі
Шо бэз корэня росла?

Ой, шчо гэто за вдова
Сем год бэз мужа жыла? *

Сем год бэз мужа жыла,
Два сыночка родыла. *

** Ой-лі, ой да лю-лі — кожны трэці радок.*
*За ім паўтараецца апошні радок страфы.*

Два сыночка родыла,
Іванюшу й Василя.*

Іванюшу й Василя,
В білу світу сповыла.*

В білу світу сповыла,
В Дунай рэчку бросіла.*

В Дунай рэчку бросіла,
Шчуку рыбу просіла.*

Ой ты, рыба-сомына,
Прымы й моіх два сына.*

А ты, сытнык, нэ махай,
Моіх сыноў нэ лякай.*

На дваццатому году
Пошла вдова по воду.*

Стала вдова воду брать,
Стаў корабэль подплывать.*

В том кораблі на концы
Два сэділо молойцы.*

Одын кніжэчку чытае,
Другі на вдову моргае.*

Ой ты, вдовушка, удова,
Чы ты пойдэш за меня?*

За одного сама йду,
За другого доч даю.*

Ой ты, вдовушка, удова,
Дурна в тэбэ голова.*

За сыночка сама йдэш,
За браточка доч даеш.*

Шо гэто на світі стало?
Маты сынов нэ познала.*



# Ішлі хлопцы

*Бяседная*

♩=76

І - шлі хлоп-цы з я - рма-л(ы)ку ды зру бі - лі

я-блынь ку. Ой лі, ой лі, ой да лю - лі

ды зру - бі - лі я - блынь - ку.

Ішлі хлопцы з ярмалку,
Ды зрубілі яблыньку,
Ой лі, ой лі, ой да люлі,
Ды зрубілі яблыньку.

Яблынька садовая,
Грушыца мядовая,
Ой лі, ой лі, ой да люлі,
Грушыца мядовая.

Грушыца мядовая,
Дзеўка чарнабровая,
Ой лі, ой лі, ой да люлі,
Дзеўка чарнабровая.

Дзеўка чарнабровая,
Под нораву подышла,
Ой лі, ой лі, ой да люлі,
Под нораву подышла.

Под нораву подышла,
Цалавала молайца,
Ой лі, ой лі, ой да люлі,
Цалавала молайца.

Цалавала молайца,
Крашэ мацеры, айца,
Ой лі, ой лі, ой да люлі,
Крашэ мацеры, айца.

# Ой, да ішлі хлопцы

*Бяседная*

♩=88

Ой, да і - шлі хло - пцы з я - рма - ркі,

ой,да і-зру-бі - лі я - блы-ньку.Вой-да,вой-да,вой-да,

во - ха - ха, ой,да і-зру-бі - лі я -блы-ньку.

Ой, да ішлі хлопцы з ярмаркі,
Ой, да ізрубілі яблыньку.
Вой-да, вой-да, вой-да, во-ха-ха,
Ой, да ізрубілі яблыньку.

Ой, да ізрубілі яблыньку.
Ой, да пасадзілі грушачку.
Вой-да, вой-да, вой-да, во-ха-ха,
Ой, да пасадзілі грушачку.

Ой, да пасадзілі грушачку,
Ой, да на дзявочу душачку.
Вой-да, вой-да, вой-да, во-ха-ха,
Ой, да на дзявочу душачку.

Ой, да расці, груша садова,
Ой, да гуляй, дзеўка малада.
Вой-да, вой-да, вой-да, во-ха-ха,
Ой, да гуляй, дзеўка малада.

Ой, да гуляй, дзеўка малада,
Ой, да ці ты пойдзеш за меня?
Вой-да, вой-да, вой-да, во-ха-ха,
Ой, да ці ты пойдзеш за меня?

— Ой, да за цябе я не пайду,
Ой, да я казачаньку люблю.
Вой-да, вой-да, вой-да, во-ха-ха,
Ой, да я казачаньку люблю.

# Дунаю, Дунаю

*Рэкруцкая*




— Дунаю-Дунаю, чаму ціха йдзеш?
— А як мне, Дунаю, паціху ня йсці?

На мне, на Дунаю, тры чаўны ідуць,
А ў адным чаўночку конікі ірзуць.

У другім чаўночку малайцы пяюць,
А ў трэцім чаўночку дзяўчаты плачуць.

Конікі ірзуць, бо вайну чуюць,
Малайцы пяюць — на вайну ідуць.

Малайцы пяюць — на вайну ідуць,
Дзяўчаты плачуць, што ў палон бяруць.

# Ой, з-пад горкі з-пад крутой

*Рэкруцкая*

♩=130

Ой, з-пад гор-кі з-пад кру - той вый - шаў ма - ёр
ма - ла - дой Ле - вай пра-вай, зя-лё-най дуб
ра - вай і - шоў ма - ёр ма - ла - дой.

Ой, з-пад горкі з-пад крутой
Выйшав маёр маладой.
* Лева-права,зеленэ-кудрава
Выйшав маёр маладой!

Выйшав маёр маладой,
Нежанатый, халастой.

Нежанатай, халастой,
Дзержыць шаблю пад рукой,

Дзержыць шаблю пад рукой
Разгаварывая зь ёй.

– Ох, ты шабелька моя,
Бараніла ты мене!

Бараніла ты мене
Ў чужой дальняй стороне.

У чужой дальняй стороне
На праклятай на вайне.

# А ўбары, бары

*Рэкруцкая*




А ў бары, бары
Тры дарожанькі,

** Гэй, гэй, гэй, гэй,
Тры дарожанькі.

Тудою ішло й
Тры салдацікі.

Хто до мамкі йдэ,
Песенькі пое.

Хто до жынкі йдэ,
У скрыпочку грае.

Хто до мачохі —
Сылнэнько плачэ.

Встрэчае маці
В пув дорожэнькі.

Із хлебом-соллю,
Шчасьцем з долею.

Встрэчае жынка й
У вороцечках.

Із белым сыром,
Із малым сыном.

Ох, а мачоха
Дай на порозе.

Дай на порозе,
Дай на морозе.

*,** *Варыянт трэцяй страфы*

# Як заржэць жа сівы кося

*Рэкруцкая*

♩=105

Як за-ржэць жа сі - вы ко - ся

на б(ы)ра - дзе,____ як за-пла-чэць

до-б(ы)мо - ла-дзец на вай(і) - не.____

Як заржэць жа сівы кося на брадзе,
Як заплачэць доб моладзіц на вайне:
— Ах вы, браціткі, таварышы мае,
Раскажыці майму татку пра мяне.
Ніхай татка сівога й каня прадаець,
Ніхай мяне з неволінькі выручыць.
— Я й ня буду сівога каня прадаваць,
Я й ня буду з няволінькі выручаць.
Як заржэць жа сівы кося на брадзе,
Як заплачэць доб моладзіц на вайне:
— Ах вы, браціткі, таварышы мае,
Раскажыці маёй мамкі пра мяне.
Ніхай мамка скрынкі-пярынкі й прадаець,
Ніхай мяне з няволінькі выручыць.
— Буду, буду скрынкі-пярынкі прадаваць,
Буду, буду з няволінькі выручаць.

# Звесткі пра песні

**1. Перапёлка**
Запісана А.Грыневіч на пач.XXст. на Ашмяншчыне. «Песні беларускага народа». Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1959.

**2. Вэлітай**
Запісана ў Кобрынскім р-не. З рэпертуару гурта «Vuraj».

**3. Ой, літо**
Запісана ў в.Сіманавічы, Драгічынскі р-н, Брэсцкая вобл.

**4. На моры жабка**
З запісаў Рыгора Барадуліна, «Песні матчыны з Вушаччыны».

**5. Талака**
З рэпертуару народнага спевака Уладзіміра Ціханоўскага. В.Рачэнь, Любанскі р-н, Мінская вобл.

**6. Туман ярам**
Запісана ў 1960 г. у в.Бабчын, Хойніцкі р-н, Гомельская вобл. У. Раговіч «Вянок беларускіх народных песень», Мінск: «Навука і тэхніка», 1988.

**7. Пасею гурочкі**
Запісана М. Грынблат у 1937 г. ў в.Юравічы, Калінкавіцкі р-н, Гомельская вобл. «Песні беларускага народа». Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1959.

**8. А ў полі вярба**
Запісана У. Тэраўскім (з рукапісных матэрыялаў). «Песні беларускага народа». Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1959.

**9. Ой, рэчанька**
Запісана Г. Цітовічам у 1936 г. ў в.Палонка, Свіслацкі р-н, Гродненская вобл. «Песні беларускага народа». Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1959. Апрацоўка Г. Цітовіча.

10. **Ой, сівы конь бяжыць**
У. Раговіч «Вянок беларускіх народных песень», Мінск: «Навука і тэхніка», 1988.

**11. Галубка на вішні**
Запісана ў в. Дабрыяны, Воранаўскі р-н, Гродненская вобл.
З рэпертуару гурта «Варган».

**12. Дарожка**
Запісана М. Залатухам, А. Хадыкам ў 1975 г. ў г. Мсціслаў, Магілёўская вобл.

**13. Чырвоная вішня**
Запісана ў 1968 г. ў в.Пухавічы, Жыткавіцкі р-н, Гомельская вобл.
З.Я.Можейко «Песни белорусского Полесья». Издательство «Советский композитор», 1984.

**14. А ў гародзе верба расла**
У. Раговіч «Вянок беларускіх народных песень», Мінск: «Навука і тэхніка», 1988.

**15. Ой, у лузе каліна стаяла**
У. Раговіч «Вянок беларускіх народных песень», Мінск: «Навука і тэхніка», 1988.

**16. Ой, да сонцэ**
Запісана ў в.Гаўрыльчыцы, Салігорскі р-н, Мінская вобл.

**17. Як пасеяў Андрэй грэчку**
Запісана ў в.Тонеж, Лельчыцкі р-н, Гомельская вобл.
З рэпертуару гурта «Таняжанка».

**18. Пчолы мае**
З рэпертуару народнага спевака Уладзіміра Ціханоўскага.
В. Рачэнь, Любанскі р-н, Мінская вобл.

**19. Ой ты, Косцюшко, хорошій мій**
Запісана ў в.Балоты, Кобрынскі р-н, Брэсцкая вобл.

**20. Ой, чыя ж то ніва, чые ж то пакосы**
Запісана ў 1983 г. ў в.Лісовічы, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл. У.Раговіч «Вянок беларускіх народных песень», Мінск: «Навука і тэхніка», 1988.

**21. Ой, шчо гэто за вэрба**
Запісана ў в.Церабень, Пінскі р-н, Брэсцкая вобл.
З рэпертуару гурта «Церабяначка».

**22. Ішлі хлопцы з ярмалку**
Запісаў С. Доўгушаў у в.Дзяражычы, Лоеўскі р-н, Гомельская вобл.

**23. Ой, да ішлі хлопцы**
Запісана ў 1962 г. ў в.Коўчыцы-2, Светлагорскі р-н, Гомельская вобл. У.Раговіч «Вянок беларускіх народных песень», Мінск: «Навука і тэхніка», 1988.

**24. Дунаю-Дунаю**
З рэпертуару гурта «Кудмень».

**25. Ой, з-пад горкі з-пад крутой**
Запісана ў 2012 г. ў в.Струга, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.
З рэпертуару гурта «Рада».

**26. А ў бары, бары**
Запісана І. Мазюк у в.Сакалова, Бярозаўскі р-н, Брэсцкая вобл.
З рэпертуару гурта «Стажары».

**27. Як заржэць жа сівы кося**
Запісана ў в.Баяноўшчына, Полацкі р-н, Віцебская вобл.
З рэпертуару гурта «Варган».

# ЗМЕСТ

*Перапёлка* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3
*Вэлітай* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 5
*Ой, літо* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 6
*На моры жабка.* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 7
*Талака* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 8
*Туман ярам* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 9
*Пасею гурочкі* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 10
*А ў полі вярба* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 11
*Ой, рэчанька* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 12
*Ой, сівы конь бяжыць* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 13
*Галубка на вішні* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 15
*Дарожка* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 16
*Чырвоная вішня* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 17
*А ў гародзе верба расла* . . . . . . . . . . . . . . . . . 19
*Ой, у лузе каліна стаяла* . . . . . . . . . . . . . . . . . 20
*Ой, да сонцэ* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 22
*Як пасеяў Андрэй грэчку* . . . . . . . . . . . . . . . . . 23
*Пчолы мае* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 25
*Ой ты, Костюшко, хорошій мій* . . . . . . . . . . . . . 26
*Ой, чыя ж то ніва, чые ж то пакосы* . . . . . . . . . . 27
*Ой, шчо гэто за вэрба* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 29
*Ішлі хлопцы з ярмалку* . . . . . . . . . . . . . . . . . . 31
*Ой, да ішлі хлопцы* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 32
*Дунаю-дунаю* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 33
*Ой, з-пад горкі з-пад крутой* . . . . . . . . . . . . . . 34
*А ў бары, бары* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 35
*Як заржэць жа сівы кося* . . . . . . . . . . . . . . . . . . 36
Звесткі пра песні . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 37

*Выданне для вольнага часу*

# НАРОДНЫ СПЕЎНІК

Адказны за выданне *Ігар Віркоўскі*

Укладанне: *Яніна Грыневіч, Сяржук Доўгушаў*
Расшыфроўка нот: *Наста Някрасава, Аляксандр Ясінскі*
(1-5, 11-12, 16-19, 21-22, 24-27)
Музычны рэдактар: *Наста Карпенка*
Рэдактар: *Эла Кулеш*
Дызайн, шыхтаванне: *Святлана Клепікава*

*У аздабленні кнігі выкарыстана выцінанка Насты Глушко*

Падпісана да друку 15.09.2020.
Фармат 70×100/32. Папера афсетная. Друк афсетны.
Гарнітура Corbel. Ум. друк. арк. 1,45.
Наклад 2000 ас.
Замова №2511

Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медиал»
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы
і распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/208 ад 07.03.2014
вул. Караля, 9-118, 220004, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь

Надрукавана ў друкарні «Поликрафт»,
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы і
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 2/14 ад 21. 11. 2013 года.
вул. Кнорына, 50, корп. 4, п. 401а, 220103, г. Мінск,
Рэспубліка Беларусь



